Год I. Чэрвень № 4.

# Шлях Моладзі

… „Падымайся з нізін, сакаліна сям'я,
Над крыжамі бацькоў, над курганамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між славянамі".

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1929 г.

Беларуская Друкарня Ім. Францішка Скарыны — Вільня, Людвісарская вул. 1

ЗЬМЕСТ № 4:



---


# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска месячна . . . . . . . 35 гр.
„ на паўгода . . . . . . 2 зл.
„ на год . . . . . . . 4 зл

Заграніцу ўдвая даражэй.

Цана абвестак:

Цэлая старонка . . . . . . . . 40 зл.
Паўстаронкі . . . . . . . . . 20 зл.
Адна чацьвертая старонкі . . 10 зл.

Абвесткі зьмяшчаюцца толькі на вокладцы.

**Адрас Рэдакцыі:** Вільня, Людвісарская № 1 — 23. (Wilno Ludwisarska 1 — 23).

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год I. | ВІЛЬНЯ, — ЧЭРВЕНЬ, 1929 ГОД | № 4. |
|---|---|---|

## *ШЛЯХ МОЛАДЗІ.*

*З заблутанай бяздарожжы, прабіўшыся скрось жыцьцёвыя віхуры, узышла беларуская моладзь на свой просты, народны шлях. Узышла, каб ісьці ўжо гэтым роўным шляхам аж да мэты, каб браць за сабою ўсіх, каму баліць сэрца, глядзеўшы на спутаную Пагоню, на згорнуты наш народны сьцяг, каму льюцца сьлёзы, гледзючы на гора нашай няшчаснай Маці-Краіны.*

*Дзеткі, ратуйце — кліча нас Маці-Старонка. Чыё сэрца не ўзварушыцца, чыя душа не адклікнецца на зоў і просьбы сваей роднай маці?*

*Моладзь! Браты і Сёстры! Дружна, адважна ідзема гэтым простым народным беларускім шляхам, а дойдзем мы да мэты і здабудзем долю сваей роднай Маці.*

*Хто зможа нам загарадзіць наш роўны радзімы шлях? Хто будзе мець сілу затрымаць бойкую, гаротную, сярмяжную беларускую моладзь? Хто дасьць лепшую ідэю, ад каханьня і ратаваньня сваей роднай Маці?*

*Браты! калі мы знайшлі ўжо гэты просты народны шлях, дык пойдзем-жа ім аж да мэты! Мы ня зблудзім, бо шлях гэты ёсьць просты і наш радзімы.*

*Не затрымае нас ніякая сіла, бо мы маем магутную ідэю, бо ў жылах нашых кіпіць беларуская кроў!*

*У. Казлоўшчык.*

# Моладзь—сіла.

Вялікая сусьветнаная вайна прынясла нам жаданы дар, аб каторым нашыя бацькі лятуцелі праз доўгія гады няволі — гэта блізкі ідэал **вольнасьці.**

Праўда, можа гэты ідэал яшчэ ня зьдзейсьніўся ў тым сэнсе, што будзем „мы самі гаспадарамі", але да пэўнай меры глядзець можам на яго, як на нешта пэўнае, каторае павінна стацца і станецца.

Веліч, хараство гэтага дару вольнасьці ўлівае ў душы нашыя тую вялікую сілу, перад каторай нішто нязможа ўстаяць.

Сьвеціць золак вольнасьці, а сьвеціць ён найбольш для нас, моладзі.

Але трэба ведаць, што толькі чыстае незаплямленае сэрца вядзе да сьветазарных ідэалаў.

Ня можа глядзець на сонца вока тае моладзі, каторая зачыняецца толькі, уласным „я", у эгаізме — у самым сабе, у сваіх інтарэсах. Вока, заслоненае нечым прыземным, ня можа дагледзіць сьветазарных ідэалаў і ня можа супачыць з радасьцьцю на іх прыгожстве, дзеля гэтага заданьнем нашым — барацьба з тым, што сьвятло зацемняе.
Тады бадзёры дух наш зажадае змаганьня, тады зьвернецца з ахвотай да закліку прарокаў нашых і будзе піць з крыніцы агульнага дабра — шчасьця.

Узбудзіцца ў нас туга за дасканальнасьцяй.

Дык застановімся над варожымі сіламі, каторыя дзеюць згубна на наш дух; пазнаем памылкі нашыя і адкінем іх, тагды ўбачым, што няма чаго шкадаваць благаты, убачым за намі пропасьць духовую і не захочым варочацца ў дрыгву.

Дух наш праз досьлед над сабою дойдзе да зразуменьня, дзе сапраўдная мэта жыцьця нашага.

Бо-ж, мы моладзь, маем быць **сьветласьцю** жыцьця народнага, вольнага. Маем быць **сольлю** зямліцы нашай, Беларускай. Бяда, калі-б у сэрцах нашых знайшла месца благота. Бяда, калі-б сэрцы нашы змарнелі дарма, ды сталіся пусткою.

Мы, моладзь, у новаў эры жыцьця Бацькаўшчыны нашай, займаем вельмі важнае становішча і дзеля гэтага павінны зорка сачыць, каб блеск нашых сьветлых ідэалаў ня быў зацемнены.

Чаго-ж жадаць ад сябе мы павінны? Ці толькі пекных — шляхотных парываў, ці моцных слоў? Не, мы павінны паказаць, што можам здзейсьніць вялікія думкі нашых прарокаў — аб Вольнасьці.

І толькі тая моладзь, каторая вучыць і творыць — станецца вялікай і годнай насьледаваньня.

Праца і навука, усё жыцьцё моладзі мусіць аперціся на грунце высока-этычным; як (філёматы і філярэты,) мусіць мець такі запас духовых сілаў, каб карміць народ свой духовай стравай, каб распачаць новую эпоху тварэньня, каб стаптаць гідру сумліву ў уласныя сілы. Дзеля гэтага мусімо стаць да барацьбы з уласным лянівым „я", стаць да працы з бадзёрым духам, з надзеяй у перамогу. Як Грэкі йдучы ў бой апраналі найлепшыя вопраткі і бралі найлепшае аружжа і з усьмехам, пазіраючы ў вочы небяспецы — перамагалі, так і мы, моладзь, павінны сьмела йсьці ў бой за дабро ўласнае і дабро нашае Бацькаўшчыны...

Дык застановімся над сабою, над уласным „я", застановімся над тым, чым мы ёсьць і чым быць можам дасьледзім самі сябе, бо перад намі вялікая жыцьцёвая дарога змаганьня за лепшую будучыню нашага Народу. Мы мусімо ісьці ўсе гэтаю дарогай, мусім быць злучаны аднэй мэтай, злучаны любоўю братняй.

Прыязьнь наша ўзаемная мусіць быць абапёртая на сіле духа і на супольных ідэалах. А ідэал наш — гэта праўда і справядлівасьць, а пасярод праўды і справядлівасьці—Вольная і Незалежная наша Бацькаўшчына.

І калі так пойдзе, то сонца, каторая цяпер толькі лучамі раніцы азараець Бацькаўшчыну, узыйдзе высока, засьвеціць для ўсіх і абагрэе.

Дык да, працы моладзь — мы сіла!

**А. Шкутка.**

---

# Родная школа.

Школа — гэта ёсьць інстытуцыя, якая дае магчымасьць маладым людзям здабыць асьвету, пазнаць самога сябе і сьвет і гэтым прыгатавацца да лепшага, карысьнейшага жыцьця.

Калі-ж школа можа даць найбольш карысьці — асьветы?

Школа тады можа даць найбольш карысьці г. зн. веды, асьветы, калі яна добра пастаўлена. Тады-ж школа будзе добра пастаўлена, калі ў ёй навука будзе праводзіцца ў роднай мове вучня, калі кіраўнікі і вучыцялі гэтай школы будуць тэй-жа нацыі якой й вучні і будуць знаць добра іх жыцьцёвыя варункі. Перадусім-жа вучыцялі павінны добра знаць душу дзяцей, бо тагды толькі яны змогуць даць ім як найбольш карысьці і падгатоўкі да жыцьця, калі пазнаюць іхныя маладыя душы, адчуюць іхныя сэрцы і будуць вясьці далей тую ўзгадаваўчую і культурную працу, якую ў хаце

вяла матка. Адным словам школа павінна быць для дзіцяці, як-бы другая родная матка. Школа не павінна ламаць дзіцяці, падаючы яму асьвету ў іншай мове, але павінна далей разьвіваць тыя культурныя вартасьці, якія дзіця вынесла з хаты, узбагачаючы іхны зьмест і форму.

Гляньма-ж цяпер, як прадстаўляецца справа з асьветай і з школай у нас, у Заходняй Беларусі.

Трэба сказаць праўду, што школьная справа ў нас стаіць вельмі дрэнна. Школ у роднай мове бадай што і няма, бо што-ж значаць чатыры пачаткавыя прыватныя беларускія школы, у в. Рудаўцы, Слонімскага пав., у в. Шаўлянах, Браслаўскага пав. якія ўтрымліваюцца праз Беларускі Інстытут Гас-



Будынак у каторым месьціцца Віленская Беларуская Гімназія.

і Культ., у в. Панізьзі, Валожынскага пав., утрымліваная „Бел. Гасп. Зьвязам“, у м. Радашкавічах, утрымліваная Бацькаўскім Камітэтам, ды тры прыватныя гімназіі ў Вільні, Наваградку і Клецку на $2^1/_2$ мільёны беларускага насяленьня. Праўда, маем яшчэ 21 школу ўрадовую беларускую, 44 школы двумоўныя, як кажуць, утраквістычныя (гэта тыя школы, дзе вучаць і папольску і пабеларуску) і шмат школ польскіх. Але гэта справы не папраўляе, дзеля таго, што гэтыя школы блага пастаўлены, як урадавыя беларускія, так утраквістычныя, а нават і польскія. Дзеля таго блага, што ў школах беларускіх урадавых вучаць і кіруюць узгадаваньнем моладзі вучыцялі не Беларусы, каторыя ня знаюць грунтоўна, ані мовы, ані варункаў

жыцьцёвых, ані душы беларускіх дзяцей і ня ўмеюць такім чынам даць належнай асьветы і ўзгадаваньня дзецям. У школах утраквістычных вучаць такія-ж самыя вучыцялі, як і ў школах урадавых беларускіх, але тут яшчэ горшая справа: яны вучаць у мове беларускай толькі мала важныя прадметы, або і саўсім ня вучаць пабеларуску. Паводле вестак, якія прыходзяць з вёскі, у такіх быццам утраквістычных школах выкладаньне вядзецца бадай выключна папольску, а нават гутаркі з дзяцьмі вядуцца папольску, а гэта затым, што вучыцялі мовы беларускай ня знаюць.

Польскія-ж школы дзеля гэтых самых прычын для беларускіх дзяцей зусім не падходзяць, там вучаць у чужой



Будынак у каторым мясьціцца Наваградзкая Беларуская Гімназія.

мове і чужыя людзі, каторыя для дзяцей незразумелыя, бо незразумелая для іх мова польская.

Вось-жа ўзяўшы ўсё гэта пад развагу, а таксама тое, як нешчасьлівымі чуюцца людзі цёмныя, неасьвечныя, бацькі беларускіх дзяцей павінны дамагацца роднай школы для сваіх дзетак. Моладзь беларуская, здабыўшая асьвету, павінна ўсе сілы свае натужыць і ўсялякімі спосабамі йсьці да таго, каб нашая бедная, цёмная, вясковая моладзь была асьвечана, каб потым магла даць карысьць для Народу і сваей Бацькаўшчыны.

Дык-жа, Дарагія Бацькі Беларусы, ў імя дабра свайго Народу, сваей Бацькаўшчыны Беларусі, свайго роднага дзі-

цяці, дамагайцеся школы роднай для сваіх дзетак. Дамагайцеся таксама адпаведных вучыцялёў!

Дарагія Браты Інтэлігенты! Вашым абавязкам ёсьць асьвячаць цёмных сваіх братоў і памагаць ім у здабываньні асьветы. Дык хай-жа кожны з Вас, паводле сваей магчымасьці пасьвяціць як найбольш часу на гэту так важную справу, як родная школа.

Хай-жа голас гэты ня будзе голасам крычачага ў пустыні.

Я. Н.

# Дзяўчына ў жыцьці грамадзкім.

Гэтае пытаньне вельмі важнае і дзеля гэтага пастараюся крыху яго парушыць. У сучасным веку жанчыны ў некаторых дзяржавах, у грамадзкім жыцьці вельмі важную ролю адыгрываюць. Нашы беларускія жанчыны яшчэ не прыступілі да грамадзкай працы. Разумеецца — ёсьць выняткі, але мы іх можам на пальцах палічыць.

Ня дзеля таго беларускія жанчыны не прымаюць актыўнага ўдзелу ў жыцьці грамадзкім, што, можа, яны няздольныя да гэтае працы. Не. А вось проста дзеля таго, што яны самі ня цікавяцца грамадзкай працай і на іх нашае мужчынскае грамадзянства малую ўвагу зварочвае. Мужчынскае грамадзянства трактуе жанчыну, як матку, як гаспадыню ў хаце, а ў грамадзкую працу не прывыкла іх уводзіць. А трэба ведаць, што жанчына можа ў грамадзкай рабоце вельмі важную ролю адыгрываць. Яна можа адыграць такую ролю ў грамадзкім жыцьці, як і ў сям'і. Жанчына ў працы вытрывалая, рупная, акуратная і г. д.

Цяпер вернемся да моладзі. Мы, моладзь, асабліва хлапцы, арганізуючыся ў нейкую арганізацыю, прык. Б. І. Г. і К., Т-ва Школы, ня ўсюды і не заўсёды ўцягіваем у грамадзкую работу дзяўчат. Лічым відаць іх няздольнымі да працы дадзенае арганізацыі. Але мылімся моцна, калі так думаем, або гаворым. Яшчэ раз кажу, што дзяўчаты ў арганізацыі могуць вельмі паважную ролю адыграць. Дзяўчына, узяўшыся за якуюсь працу, будзе заўсёды акуратнай у выконываньні сваіх абавязкаў. Рывалізацыя з іншымі сяброўкамі і сябрамі — гэта на першым месцы ў дзяўчат, гэта характэрная рыска жанчын; а гэта ўжо вельмі добра, калі ёсьць рывалізацыя ў працы. Дык не павінна быць, каб дзяўчаты былі толькі гасьцямі ў арганізацыях, але каб былі сяброўкамі і супрацоўнічкамі. Дадатняй стараной належаньня дзяўчат да арганізацыі ёсьць тое, што іх прысутнасьць на сяброўскіх сходах, паседжаньнях, эк-

скурсіях і інш. паўстрымлівае хлапцоў ад немаральных гутарак, п'янства, бояк і інш. Хлапцы стараюцца быць акуратнымі і паважнымі ў прысутнасьці дзяўчат.

Ведаем так-жа добра, што з-паміж дзяўчат можна знайсьці, шчырых працаўніц на роднай ніве і гарачых патрыётак. З часам-жа такія сьвядомыя дзяўчаты, добрыя патрыёткі выйдуць замуж, стануцца маткамі сем'яў, дык яны ўжо будуць ведаць, як выховываць, у якім духу гадаваць прышлае пакаленьне. Іх дзеці ня будуць казаць, што „мы палякі, або рускія". А нам-жа і трэба, каб як найхутчэй узрасло новае пакаленьне, веры „ня польскай і ня рускай", але сапраўды хрысьціянскай і ў духу нацыянальным, незалежніцкім, беларускім.

Дзеля гэтага мусім мы паволі прывучаць нашых дзяўчат да працы грамадзкай. Праца іх мусіць распачацца ад наступнага: належаньне да культурных арганізацыяў, супрацоўніцтва ў ладжаньні прадстаўленьняў, канцэртаў, дэклямацыя і хор.

Трэба адцеміць, што тая дзяўчына, каторая грамадзка вырабіцца і паставіць сабе сьветазарную мэту ў жыцьці бязумоўна, заслугоўвае на вялікую павагу. Яна стаецца шанаванай праз моладзь сваю, а нават праз агульных нашых ворагаў.

Абавязкам хлопцаў ёсьць: уцягіваньне ў працу грамадзкую нашых беларускіх дзяўчатак, якія таксама шмат прычыняцца да вызваленьня нашае Бацькаўшчыны-Беларусі.

Дык да працы! **М. Пецюкевіч.**

---

# Пачатак друкарства.

(Працяг, гл. № 3 „Шл. Мол.")

**Д-р Францішак Скарына.**

У Беларусі друк зьявіўся дзякуючы Францішку Скарыне. Д-р Ф. Скарына быў родам з Полацку. Радзіўся каля 1490 году. Вучыўся спярша дома, а потым у Вільні, пазьней у Кракаўскім унівэрсытэце. Але гэта яго нездаволіла і ён паехаў у Італію і там здабыў ступень дохтара мэдыцыны.

Кніжкі да Скарыны друкаваліся ў нас у царкоўна-славянскай мове, якой беларускі народ добра ня ведаў. Вось д-р Францішак Скарына, каб даць магчымасьць вучыцца беларускім дзеткам у роднай мове, пачаў перакладаць Біблію на беларускую мову, а потым пачаў яе друкаваць.

Прыехаўшы ў Прагу, д-р Ф. Скарына ўзяўся за вялікую працу—пачаў купляць патрабнейшыя прылады для друкарні і так стаў памалу друкаваць кніжкі. Вялікі на ім цяжар ляжаў: мусіў сам перакладаць, друкаваць, карэкту правіць, і агулам за ўсім даглядаць, каб усё ў парадку было.

Першай кніжкай, перакладзенай Скарынай на беларускую мову і на друкаванай ім у Празе—быў **Псалтыр**. Гэта было 6 жніўня 1517, больш як 400 гадоў таму назад.

У працягу трох гадоў—1517, 1518 і 1519 — Францішак Скарына надрукаваў яшчэ 22 кніжкі Бібліі.

Але праца ў Празе Скарыну нездаволіла: ён забраў-



**Др. Францішак Скарына.**

шы ўсе друкарскія прылады, ў 1525 годзе пераехаў у Вільню і тут ізноў пачаў друкаваць беларускія кніжкі.

Аб далейшым жыцьці нашага слаўнага друкара вестак ёсьць мала. Вядома толькі, што жылося яму вельмі дрэнна. Друкарня Скарыны ў 1530 годзе згарэла і Скарына астаўся з голымі рукамі. Калі памёр ён—добра няведама—прыблізна каля паловы XVI ст.

Шмат карысьці прынёс Скарына для нашага беларускага народу: выдаў першую беларускую кніжку, залажыў першую беларускаю друкарню, пакідаючы нам, такім чынам, вялікія культурныя здабыткі.

канец. **Я. Б.**

# Літэратурны аддзел.

**Аўг. Бартуль.**

## Вёсцы.

(Пасьвячаю брату.)

Эх, вёска, ты шэрая вёска,
Хаты паросшыя мохам,
Плакучая гнеццца бярозка —
Сумна стаіць панад плотам.

Эх, мроі, паўсонныя мроі —
Болей шматком-бы зямліцы,
Эх, што нам сусьвету астоі
Хлеба было-бы, вадзіцы.

Мы маем хацінку-куточак,
Хлеў, парасё і кароўку,
Вось нам-бы зямліцы шматочак,
Лоўка было-бы, ай лоўка!

Нам Бог ураджай дасьць на полі,
Кару мы прыймем пакорна,
Бо ўсюды Ягоная воля,
Што схоча дасьць усёроўна.

Хай намі хто хоча кіруе,
Менш-бы падаткаў і досьць,
Хоць тут чалавек пагаруе,
На тым сьвеце лепш мо' ёсьць?...

---

Эх, вёска, ты вёска старая,
Глянь, новы час надыходзе
І доля чакае артая,
Спаць ужо досьць, ужо годзе.

Адтуль з-пад далёкага места,
Дзе дымам спавіты хмары,
Дзе людзям так душна і цесна
Выйшлі сталёвыя мары.

Гэй, шэрая вёска, ці чуеш!
Балоты, палі, сенажаць,
Гэй, вёска, што прыгатуеш,
Гасьцей з чыстай сталі спаткаць!

Глянь!
Рад за радам
Ўладарна,
Крокам сталёвым
Сягаюць яны,
Зубамі шасьцёрак
Бунтарна
Нядолю ірвуць старыны.
Дымам
Плююцца аж ў неба,
Грукатам — звонам,
Песьняю новай
Будзіцца
Соннае ўлоньне зямлі.
Даль задрыжэла
Песьняй сталёвай.
Вёска, паслухай,
Як трактар
Сьпявае —
Прошламу requiem,
Ў сьлед яму ўтораць
Жніяркі —
Ня ўстане саха.
Хвалямі ток электрычны
Ліецца,
Вёска
Агнямі зіяе,
Навакол
Гудзіць льецца
Слова новае —
Індустрыялізацыя.

---

Шкадую старую я вёску,
Бо зьнішчаць яе машыны,
Ня будзе больш пахнуць бярозка—
Вёска запахне бэнзынай.

І шкода, і радасна разам
Надзеяю сэрца хвалюе,
І сумна зноў робіцца часам,
Мне шкода вёску старую.

---

Эх, вёска, ты вёска паслухай,
Госьці стальныя надходзяць
Гэй, ім на спатканьне ты рухай,
Час лепшы з імі прыходзіць.

## ЗДАЕЦЦА.

Здаецца-б усіх на каленях прасіў,
і годных, й нягодных, і добрых і злых,
каб толькі Народ наш ярма не насіў,
каб мог аддыхнуць й не рабіць на чужых.

Здаецца-б зварушыў усю я зямлю,
скалістыя горы разьбіў-бы у прах,
каб толькі Народ наш меў волю сваю
і моцна трымаў у працоўных руках.

Здаецца-б ўсіх біў-бы, наводзіў-бы жах
на здраднікаў Маткі, крыўдзіцеляў ўсіх,
ніштожыў-бы злыдняў і мсьціў-бы аж страх
за крыўды і зьдзекі прадзедаў маіх.

Здаецца-б паліў я увесь гэты сьвет,
агонь каб сьвяціў па ўсіх цёмных кутох,
мо' дзе хто тут праўды знашоў-бы хоць сьлед.
Няма! Марнее яна ў ланцугох.

Здаецца-б сварыўся я з Богам самым,
які дапускае на гэтай зямлі,
што сіла пануе над праўдай ва-ўсім.
Калі-ж вызваліш Божа, праўду, калі?

**Ул. Казлоўшчык.**

---

## ПЕСЬНЯ МОЛАДЗІ.

**(Мэлёдыя, як „Ад веку мы спалі“)**

Ўставайце сябры, за работу хапайцесь,
Даволі ў бяздзейнасьці млець!
За праўду, за шчасьце адважна змагайцесь,
Прад страхам ня трэба дрыжэць.
Мы доўга блудзілі у цемры, няведы,
Ня знаючы імя свайго.
Мы лекаў ня мелі на нашыя беды,
Прасілі ратунку чыйгось.
Цяпер ужо знаем, што мы Беларусы,
Што мы шматмільённы Народ, —
Што з даўных вякоў, мы цярпелі прымусы,
Як быццам, мы выкляты род.
Мы верым у сілу арлінага ўзлёту,
Што хмары пранікне ураз,
А з нашае працы й з крывавага поту
Народзіцца шчасьце для нас.

Дык дружна наперад, адважнай ступою
Пайдзём сабе шчасьце каваць.
З надзеяй у сэрцы і з верай жывою
Пачнём мы свой край будаваць.
А шлях нам праўдзівы Пагоня пакажа,
Якім мы павінны ісьці,
Хоць вораг адвечны, мо' шлях нам заляжа,
Прашкоды мы мусім прайсьці.
Мы клічам Славянаў да згоды супольнай,
Каб брацкая міласьць была,
Каб Праўда Хрыстова між людзкасьці вольнай,
Як макавы цьвет расьцьвіла...

**Марвіч.**

---

* * *

Сонейка мілага косы вясьняныя,
Любыя госьці, даўно ўжо чаканыя—
Падаюць з неба, з зямлёю цалуюцца,
Здацца на вечнасьць зышліся, шлюбуюцца.

Усё, што ў прыродзе жыве, асьвяжаецца,
Цягнецца ўверх, быццам імкнецца, сьпяшаецца,
Штосьці узяці ад сонца жыцьцёвае:
Сілы змагальнае, моцы сталёвае.

**В. Шкодзіч**

---

НАРОДНАЯ ПЕСЬНЯ.

Паляцеў галуб у бор журыцца,
Паехаў Яся ў сьвет жаніцца.
Прыляцеў галуб ажурыўшыся,
Прыехаў Яся ажаніўшыся.
Матка нявесты не спадабала,
Горкую траўку прыпраўляла.
Свайму сыну, зялёна віно,
А для нявесткі, горкая траўка.
—Зялёна віно пад каня выльем,
Горкую траўку папалам вып'ем.
Зялёна віно пад каня выліў,
Горкую траўку папалам выпіў.
—Памром мы цяпер у адну гадзіну
Нас пахаваюць у адну магілу.
Да мылі Ясю ў цёплай вадзіцы,
А нявестачку ў чорнай зямліцы.
Зрабілі Ясю сьцяклясну труну,

А нявестачцы з дубу карыта.
Да вязьлі Яся сямі канямі
А нявестачку храмой кабылай.
Хавалі Яся перад цэркаўкай,
А нявестачку аж за цэркаўкай.
Вырас на Ясю зялёны дубочак
А на нявестцы бела бярозка.
Расьлі, расьлі, пахіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.
На гэта людзі падзівіліся,
Што на тым сьвеце палюбіліся.

Запісаў у в. Рабунь Вялейскага пав.
**Міхал Шчасны.**

# Лісты.

## НАЧАЛЬНІК ПОШТЫ.

**М-ка Астрына**, пав. Лідзкі. Наш начальнік пошты, як відаць дык ёсьць вялікім ворагам беларускага сялянства. Аднаго разу прышлося мне пасылаць падпіску на часопіс „Шлях Моладзі". Ня хапіла ў мяне аднаго гроша. Начальнік палічыўшы грошы, паглядзеў на адрас куды пасылаю і ня прыняў. Я пачаў яго прасіць, каб прыняў, але ён і слухаць не хацеў. Тады я яму успомніў, што браў колькі раз пераказы паштовыя і даваў па 5 грошы., але рэшты начальнік мне не даваў, казаў што няма 2 гр.. Як гаварыў яму гэта, дык шне казаў: „ja nie wiem i więcej tego nie gadać, bo zaraz napiszę protokół". Але пане начальнік, ня вельмі я баюся вашага пратаколу і прашу вас даваць мне рэшту акуратна. **Той—самы.**

## БУДУЧЫНЯ Ў АРГАНІЗАЦЫЙНАЙ ПРАЦЫ.

**м. Зельва**, Ваўкавыскага пав. Хоць не часта, але ўсё-ж такі чытаю беларускія газэты, аднак пра свой куток ніякіх вестак у газэтах не сустракаў. Папраўдзе кажучы, то няма у нас аб чым пісаць. Пануе ў нас бедната. Як старыя, так і маладыя ня хочуць брацца за ніякую працу арганізацыйную, гэтым самым не дбаюць аб сваей долі. Нават некаторыя маніліся стварыць гурток Бел, Інст. Гасп. і Культ., ці Т-ва Бел. Школы, але ніяк не дайшло да зьдзейсьненьня. Гэта сьведчыць аб тым, што ў нас народ яшчэ не дарос да таго, каб мы маглі працаваць арганізацыйна. Мне здаецца, каб гэту справу паставіць лепш, трэба, каб беларуская прэса, а пераважна часопіс беларускай моладзі „Шлях Мо-

ладзі“ пасьвячала на гэтую справу спэцыяльныя стацьці' каб разбудзіць перадусім моладзь вясковую — навучыць яе працы арганізацыйнай на карысьць свайго народу і Бацькаўшчыны. Такая моладзь была-б падставай-фундамэнтам нашае Вольнае Злучанае і Незалежнае Бацькаўшчыны Беларусі. Для гэтай справы мусіць прылажыць сваю працу нашая інтэлігэнцыя, каторая павінна бязумоўна пашыраць адзіную апалітычную часопіс „Шлях Моладзі“ і прыгатаўляць да арганізацыйнай працы моладзь. А калі мы будзем мець фундамэнт, то патрапім збудаваць моцную будыніну у каторай магчыма раскошна жыць.

Дарагія Браты інтэлігэнты незабывайце ае сваім Народзе і Бацькаўшчыне. **Я. Дубок.**

---

# Хроніка.

**З жыцьця украінскай моладзі.** Калі-б пісаць аб жыцьці ўкраінскай моладзі хоць трохі падрабязьней, то трэба было-б шмат пасьвяціць на гэта месца, бо ня можна было-б гэта апісаць у аднэй нават вялікай стацьці. Дзеля таго да гэтай справы вернемся ў наступным нумары і пастараемся апісаць больш падрабязна.

Цяпер-жа зазначыць трэба, што ўкраінская моладзь да таго дарасла, што ня толькі мае свой орган, часопіс п. наз. „Молоде Життя“, але мае свае вялікія арганізацыі як „Зоря“, „Сокіл“, „Луг“, „Стрылець“, і скаўтоўскія арганізацыі („Пластуни“). Ладзяць гэтыя арганізацыі летнія абозы, экскурсіі, вядуць працу асьветную і выхаваўчую, маральную і фізычную.

**З жыцьця літоўскае моладзі.** Арганізаваньне літоўскае моладзі пад Польшчай знаходзіцца на лепшым шляху, чымся ў нас. У гэты час істнуе: „Atžala“, арганізацыя моладзі сярэдніх школ, арганізацыя вучняў школ рамесьляных і арганізацыя літоўскіх скаўтаў.

Як бачым, гэтыя арганізацыі абымаюць пераважна толькі вучнёўскаю моладзь, а моладзь літоўскае вёскі, з прычыны адсутнасьці сваей арганізацыі, працуе ў большасьці ў гуртках культурнага таварыства сьв. Казіміра (падобна, як у нас у гурткох Б. І. Г. і К. ці Т. Б. Ш.).

**Добрая Зьява.** У апошнія часы гімназіяльная аркестра Віл. Бел. Гім. выяжджала на правінцыю, дзе ігралана беларускіх спэктаклях ладжаных гурткамі Бел. Інст. Гасп. і Культуры. І так 9.VI. аркестра йграла на вечарыне ў в. Сьпягліцы, Вішнеўскай гміны, 12.V. у м. Жодзішках і 23-га г. м. выяж-

джала іграць на вечарыну ў м. Меднікі, Віленска-Троцага павету, дзе ладзіў спэктакль-вечарыну Б. І. Г. і К.

**Ад Рэдакцыйнай Калегіі „Шляху моладзі.** З прычыны летняй пары наступны нумар „Шляху Моладзі" выйдзе ў пачатку м-ца жніўня за ліпень і жнівень.

**Вышлі з друкі новыя кніжкі.** „Pieśni Žalby" выд. „Chryścijanskaj Dumki", цана 20 гр., „Пішы самадзейна" пасобнік для навукі пісаньня, выд. аўтара С. Паўловіча цана аднаго экз. 2 зл. 50 гр., „Мэтадычныя ўвагі" да пасобобніка „Пішы Самадзейна" С. Паоловіча выд. аўтара цана аднаго экз. 30 гр., „Як палепшыць пяскавую глебу" выд. „Сахі" цана 30 гр.

Кніжкі гэтыя можна купіць у ва ўсіх беларускіх кнігарнях.

З **Віленскай Бел. Гімн.** Тыя вучні, якія былі выдалены ў прошлым годзе з Віленскай Бел. Гімн., маніліся здаваць экзамены ў гэтым месяцы, але Кураторыюм Віленскага Школьнага Вокругу некаторых з іх недапусьціла.

**Экзамены на атэстат сьпеласьці у Беларускіх Гімназіях.** У гэтым месяцы адбыліся матуральныя экзамены ў Наваградзкай Бел. Гімн. Да экзаменаў было дапушчана 4 вучні Наваградзкай Гімн., 7 Клецкае і адзін экстэрн, з якіх здало толькі 6 асобаў. Наваградзкія ўсе здалі, а Клецкіх 6 асобаў зрэзалася.

18 г. м. пачаліся экзаміны ў Віленскай Беларускай Гмназіі. Да экзамінаў дапушчана 22 асобы, з якіх 9 экстэрніаў. Экстэрны здавалі і ўступную матуру і ўсе дапушчаны да вялікай—г. зн. за 8-мі клясаў. Чатырох экстэрнаў начальнік Аддзелу Школ Сярэдніх п. Вонторак быў не дапусьціўшы, але дзякуючы толькі стараньням Дырэкцыі Віленскай Бел. Гімн. перад самым Куратарам—усім дазволена здаваць экзамены. Старшынёй экзамінацыйнай Камісіі, вызначане Кураторыюмам п. В. Каляда.

Пры гэтым гожа адзначыць заслугу Дырэкцыі Віленскай і Наваградзкай Бел. Гімн., якія стараліся усімі сіламі аб наданьні правоў успомненым гімн. Тады калі беларускія гімназіі ня мелі яшчэ правоў публічнасьці, скончаўшая моладзь мусіла эміграваць у Заходнюю Эўропу па вышэйшую асьвету, або як некаторыя выяжджалі на Усход. Моладзь выяжджала туды дзе часта мусіла згінуць бадай на заўсёды для свае Бацькаўшчыны, або маральна цярпець. На Усходзе нашая моладзь мусіла цалком затраціць душу нацыянальную—беларускую, а ў хлынуць у сябе дух інтэрнацыянальны.

Дык бачачы вялікую небяспеку для Бацькаўшчыны,

беларускае грамадзянства старалася знайсьці спосаб, каб нашая моладзь ня ехала заграніцу шукаць сабе вышэйшай асьветы, але каб тут у краю мела доступ да вышэйшай школы,

Ўжо цяпер Віленская і Наваградзкая Бел. Гімн. моюць правы публічнасьці.

**Культурная праца на вёсцы.** Беларуская вясковая моладзь, бадай ўсюд і хоць не так часта ладзіць спэктаклі-вечарыны. Між іншымі заслугоўвае на асаблівую ўвагу культурна-прасьветная праца Тэатральнай Трупы Бел. Інст. Гасп. і Культуры.

Пад кіраўніцтвам грам. В. Шутовіча тэатральная трупа вельмі вялікую вядзе работу, ладзячы тэатральныя прадстаўленьні на абшарах паветаў: Ашмянскага, Маладэчанскага, Вялейскага і Віленска-Троцкага.

Трупа гэтая складаецца з наступных асобаў: А. Шчасная, Г. Шчасная, Ю. Янчуковічанка, А. Жабінскі, М. Федаровіч, С. і П. Сасноўскія, Ю. Куліцкі і М. Асіпоўскі.

Трэба зазначыць, што гэтая трупа ў вельмі цяжкіх матэр'яльных абставінах працуе. Прыходзіцца з аднаго да другога мястэчка, або ад вёскі да вёскі пехатой [пераходзіць дзеля ладжаньня прадстаўленьняў. Гэтую карысную працу робіць успомненая моладзь ў сваім часе, міма таго, што мусіць працаваць і на гаспадарцы. Аднак гэтая цяжкая праца артыстаў-аматараў не зражае. Бадай-што кожны тыдзень ладзяць па тры прадстаўленьні.

Хай гэтая трупа будзе прыкладам для іншае моладзі нашае Бацькаўшчыны.

---

# Усячына,

**Дзіўны розум.** У Парыжы адбываюцца цяпер досьледы над аднэй цыганкай Теа-Альба, якую прывязьлі з Амэрыкі. Дзяўчына гэта настолькі цікавая, што зацікавіла шмат вучоных. Напрыклад: можа рабіць тое-самае ў хут-

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЙ КАЛЕГІІ:*

*Язэп Найдзюк, Ізабэля Тумаш, Альфонс Шутовіч і Уладыслаў Тарасэвіч.*

**Рэдактар Мар'ян Пяцюкевіч. Выдавец Янка Багдановіч**

кім часе што не-будзь леваю і праваю нагою, як праваю Шые, вяжа і ўсё робіць 2 рукамі і нагамі. Апрача гэтага тутарыць на 20 мовах. У адзін і тойсамы час можа пісаць абедзьвімя рукамі на рожных мовах. Вучоныя назвалі гэную дзяўчыну „з пяцьмя мазгамі."

**Кольві п'юць.** Паводле аблічэньняў у Радавай Расеі выпілі за мінулы год 516 мільёнаў літраў гарэлкі й 836 мільёнаў літраў самагонкі. У Маскве на кожных 20.000 чалавек прыпадае 2 школы, 7 клюбаў, 1 бібліатэка, 3 царквы і 9 скляпоў з гарэлкай.

**Ахвяры землятрасеньня.** Нядаўна ў Пэрсыі адбылося зямлятрасеньне, пад час якога згінула 88 вёсак, 3253 асобы і апрача гэтага шмат раненых.

**Лацінскі альфабэт у Радавай Расеі.** Пачынаючы ад 1 сьнежня 1930 г. Радавая Расея маніцца пісаць і друкаваць газэты і ўсе урадавыя друкі лацінскімі літарамі.

**Больш анальфабэтаў, чым было.** Радавы штодзеньнік „Красная Газета" нядаўна падала статыстычныя дадзеныя адносна анальфабэтаў. З гэтай статыстыкі вынікае, што цяпер у Радавай Расеі ёсьць больш няпісьменных маладых, як старых. І так: ад 16— да 34—гадоў жыцьця налічана 15 проц. анальфабэтаў з мужчын, а з кабет 44 працэнты, з хлапцоў ад 11— да 15—гадоў 25 проц. анальфабэтаў, а з дзяўчат 47 проц. у гэтым веку. На вёсцы 40 прац. анальфабэтаў хлапцоў. Пасьля году вучэньня пакідае 30 проц. вучняў, пасьля двух—60 проц., толькі 10 проц. ходзіць да канца навукі. Навука трывае 4 гады.



## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

М. Хруцкаму. Жаданы нумар „Ш. М.“ паслалі, прысылайце падпісную плату. Ад часткі Вашая ўвага слушная, але не зусім магчымая.

Г. Халадовічу. Пробны нумар „Ш. М.“ выслалі.

В. Рэдзьку. „Ш. М.“ будзем пасылаць, толькі Вы пастарайцеся выслаць падпісную плату.

V. Плавэйскаму. „Ш. М.“ будзем пасылаць, прысылайце падпісную плату. Грошы з рэд. „Маланка“ ня раім зварочваць, бо магчыма яна зноў пачне выходзіць.

Улад-Іліцкаму. „Ш. М.“ пасылаем. Просьбу Вашу споўнілі.

Я. Мартышонку. Пробны нумар „Ш. М.“ пасылаем, калі пасьля атрыманьня ня прышлеце падпісную плату, высылку спынім.

А. Маскаліку. „Ш. Моладзі“ пасылаем, прысылайце падпісную плату.

В. Махіне. „Шлях Моладзі“ пасылаем, не забывайце аб падпіснай плаце.

Я. Камарковічу. „Ш. М.“ пасылаем; прысылайце падпісную плату.

М. Кравэцкаму. Паштовыя значкі атрымалі; жаданыя нумары „Ш. М.“ выслалі.

А, Гурэцкаму. „Маланка“ не выходзіць, але можа з часам пачне. Былыя грамадаўцкія газэты не выходзяць Адказ пісьмом не даём, бо Вы не прыслалі паштовы значак

А р—А р. Вершы Вашы некаторыя можа падойдуць да друку, а некаторыя г. зн. пераклады расейскіх песьняў нязьмесьцім.

Р. Тамашуку. Апавяданьні разгледзім, калі падыйдуць да друку, дык зьмесьцім. Адносна Вашых пытаньняў —выясьненьне высылаем пісьмом.

**Падпіску атрымалі ад:** Адв. Стальчынскага 4 зл., Я. Шпака 2 зл., Шутовіча 2 зл., М. Дварэцкага 2 зл., Сончыка 2 зл., а. Сулкоўскага 2 зл., А. Арэхвы 1 зл., Я. Смыка 4 зл., Кравэцкага 1 зл.

## АХВЯРЫ.

На выдавецтва, „Ш. М.“ зьлажылі: Вайцеховіч 5 зл., Шышкоўскі 5 зл., сэн. В. Рагуля 5 зл., Дырэктар Р. Астроўскі 4 зл., а. Сулкоўскі 5 зл.